# Тыднёвік Магілёўскі




№ 45 (109) 17-23 лістапада 2000 г. Кошт 50 руб.


**МОЛАДЗЕВАЯ АКЦЫЯ Ў НАС І Ў СТАЛІЦЫ**

## Электрычнасьць ведае, дзе трэба адключыцца



Фота А.БАШУКОВА

*Моладзевая акцыя "Пераменаў!" распачалася ў Магілёве напярэдадні агульнанацыянальнай акцыі, у суботу 11 лістапада. Тады два дзясяткі маладафронтаўцаў ды сябраў моладзевай арганізацыі АГП дапамаглі будаўнікам у рэстаўрацыі абласнога драматычнага тэатру. Хлопцаў сустрэлі ветліва й далі кавалак працы, а напрыканцы шчыра запрасілі прыходзіць яшчэ. Цікавасьць да падзеі праявіла здымачная група гарадзкога тэлеканалу "Магілёў-2".*

*На раніцу наступнага дня маладафронтаўцы прайшліся па цэнтры гораду, прапаноўваючы адміністрацыям крамаў ды ўстановаў памяняць іхныя расейскамоўныя шыльды на беларускія. Гэтая прапанова выклікала хутчэй насьцярожанасьць, асабліва ў прадстаўнікоў дзяржаўных арганізацыяў, якія робяць што-небудзь выключна паводле загадаў "зьверху". Дарэчы, высьветлілася, што ўначы нехта запэцкаў фарбаю некаторыя мэмарыяльныя дошкі, прысьвечаныя дзейнасьці ў Магілёве, – зразумела, "выбітнай" – НКВД ды савецкай ўлады. Крыху пазьней, у актавай залі ўнівэрсытэту адбыўся беларускамоўны турнір па інтэлектуальных гульнях на кубак Чырвонае Вежы. У другой палове дня ў памяшканьні ГА "Кола Сяброў" прайшлі чарговыя заняткі ў межах праекту "Вольная кляса", падчас якіх больш за 50 маладых людзей праслухалі лекцыі вядомых беларускіх палітолягаў сп.сп.В.Чарнова і Ў.Роўды.*

*Завершыць дзень плянавалася адпачынкам з прыстойнай беларускай музыкай на дыскатэцы, куды былі запрошаныя ўдзельнікі ўсіх вышэйзгаданых мерапрыемстваў. Аднак, нягледзячы на тое, што папярэдне ўлады разам зь міліцыяй праверылі рэпэртуар й не знайшлі ў ім нічога крамольнага, танцы забаранілі. Перад адным з гарадзкіх кінатэатраў, да слова, пад яркім сьвятлом ліхтароў, моладзь чакала абвестка аб тым, што ў гэтай культурніцкай установе акурат зараз няма электрычнасьці. Такім чынам працягнулася мясцовая практыка забароны абсалютна бяскрыўдных мерапрыемстваў.*

*Магілёўская дэмакратычная моладзь выказала сваю салідарнасьць з сваімі менскімі раўналеткамі, якія былі затрыманыя падчас сталічнага шэсьця "Пераменаў!". Прагу беларускай моладзі да пабудовы ўласнай эўрапейскай краіны спыніць нельга.*

***Паводле прэс-службы МГА Маладога Фронту***

## Лідэрам пагражае крымінальны перасьлед



Фота IREX

*12 лістапада ў Менску прыкладна тысяча маладых людзей, у асноўным – падлеткаў, дэманстравалі сваю нязгоду з кіруючым у Беларусі рэжымам. Дэмакратычная моладзевая кааліцыя арганізавала шэсьце па цэнтральным вуліцам сталіцы пад назваю "Пераменаў!", якое павінна было скончыцца мітынгам. Аднак нашмат большая за ўдзельнікаў колькасьць міліцыянтаў перашкодзіла ягонаму правядзеньню. Гвалтам было затрымана, па афіцыйных зьвестках, 112 чалавек, па неафіцыйных – каля 300. Некаторых зь іх, як, напрыклад, групу студэнтаў Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту інфарматыкі й радыёэлектронікі, адпусьцілі з пастарунку дадому, ня склаўшы нават пратаколаў затрыманьня. Іншых удзельнікаў чакалі суды, якія яшчэ працягваюцца. Сярод ужо вядомых вырокаў – трое сутак адміністратыўнага арышту, штрафы ў памеры 20 мінімальных заробкаў, шматлікія папярэджаньні. Ніхто зь лідэраў моладзевай кааліцыі, насуперак першапачатковым паведамленьням, затрыманы ня быў.*

*Як заявілі на прэс-канфэрэнцыі кіраўнікі моладзевых арганізацыяў, агульнабеларускую акцыю "Пераменаў!" падтрымалі ў 24 гарадах краіны ў выглядзе сходаў, дыскатэкаў, канцэртаў, публічных чытаньняў, пікетаў, мітынгаў і шэсьцяў. Маштабныя затрыманьні, акрамя Менску, адбыліся толькі ў Горадні, дзе былі схопленыя 15 чалавек.*

*Прадстаўнікі кааліцыі "Пераменаў!" маюць намер і надалей працягваць акцыі супраціву рэжыму. "Галоўная мэта нашай кааліцыі – поўная мабілізацыя моладзі на прэзыдэнцкія выбары 2001 году для таго, каб большасьць маладых людзей прагаласавала за адзінага дэмакратычнага кандыдата", – заявіў адзін з удзельнікаў прэс-канфэрэнцыі Цімох Дранчук. Было відавочна, што моладзь заставалася незадаволенай апошнімі па часе мерапрыемствамі аб'яднанай апазыцыі, якія былі названыя "пасыўнымі і згодніцкімі". Арганізатары акцыі "Пераменаў!" цьвёрда заявілі ўладам, што будуць публічна выказваць свой абгрунтаваны пратэст, а не хадзіць па ўскраінах горада і парку, дзе выгульваюць сабакаў.*

*У сваёй заяве наконт разгону моладзевага шэсьця кіраўніцтва Партыі БНФ адзначыла, што пасьля правалу выбарчага фарсу рэжым нэрвуецца і страчвае здольнасьць цьвяроза ацэньваць сытуацыю. Адзіны мэтад, што выкарыстоўвае ўлада падчас "шырокага грамадзкага дыялёгу", зазначаецца ў дакумэнце – кулак і міліцэйская дубінка, з дапамогаю якіх усталёўваецца "клімат даверу". Заява ўтрымлівае зварот да прадстаўнікоў сілавых структураў з заклікам усьвядоміць, чым абернецца для іх у будучыні гвалт над моладзю, фактычна сваімі ж дачкамі й сынамі.*

*Адгукнуліся на брутальныя паводзіны ўладаў Беларусі й праваабарончыя арганізацыі "Міжнародная амністыя" і "Міжнародная ліга правоў чалавека". Яны заявілі, што ўсе затрыманыя падчас акцыі 12 лістапада будуць лічыцца вязьнямі сумленьня.*

***Паводле інфармацыйных агенцыяў***

## Юбілейнае прызямленьне дома і ў сьвеце

**Нацыянальны навукова-асьветны цэнтар імя Францішка Скарыны абвесьціў лістапад месяцам Уладзімера Караткевіча. Нагодаю сталася набліжэньне 70-годзьдзя клясыка нацыянальнага гістарычнага раману. Пра тое, чым будзе напоўнены юбілейны Караткевічаў лістапад, распавёў загадчык аддзелу Скарынаўскага цэнтру, прафэсар Адам Мальдзіс.**

– Уладзімер Караткевіч – гэта зьява не толькі беларуская, як часта сьціпла думаем мы, ня толькі славянская, а агульнаэўрапейская, – падкрэсьліў Адам Мальдзіс. На доказ слушнасьці гэтага цьверджаньня ён паказаў кнігу "Уладзімер Караткевіч і яго творчасьць у эўрапейскім культурным аспэкце", якая толькі што выйшла зь лёгатыпам нацыянальнага навукова-асьветнага цэнтру імя Францішка Скарыны.

Кнігу склалі аўтары адзінаццаці краінаў, у якіх творы клясыка беларускага гістарычнага рамантызму шырока перакладаліся. Гэта найперш Польшча, Чэхія, Славенія, Літва, Украіна, Латвія, Вялікая Брытанія.

– І таму мы, фармуючы гэты зборнік, – сказаў А.Мальдзіс, – хацелі паказаць Караткевіча ва ўсім значэньні. Найперш для Эўропы. Для ўсяго сьвету мы тут пабаяліся сказаць. Таму што, безумоўна ж, у Злучаных Штатах ведаюць, у Канадзе ведаюць, але, на жаль, мала перакладалі.

На прэзэнтацыі гэтае кнігі й прыйшла ідэя прысьвяціць увесь лістапад ганараваньню асобы выбітнага пісьменьніка ды папулярызацыі ягонае творчасьці.

Напрыканцы гаворкі сп.Мальдзіс заўважыў:

– Цікава, што няма аргкамітэту. Улады нібы нечага чакаюць, саюз пісьменьнікаў нечага чакае... І ў гэты час стыхійна, у самых розных месцах (я б мог назваць дзясяткі адрасоў на тэрыторыі Беларусі і па-за ейнымі межамі) у той ці іншай форме адбываюцца і яшчэ пройдуць ушанаваньні.

...Час адпаведнага, сапраўды эўрапейскага прызнаньня Уладзімера Караткевіча яшчэ наперадзе. І ён блізка, – лічыць Адам Мальдзіс.

***Валянціна АКСАК***



## Кроніка тыдня ад Сымона Глазштэйна

**Ледзь не дайшло да чарговага працоўнага канфлікту ў Бабруйску. Гэтым разам яго "героямі" маглі стаць мэдыкі. Справа ў тым, што з 1 лістападу ім падвысілі памеры платы за жыльлё ў інтэрнаце. Цяпер гэта амаль 30000 рублёў – пры заробку ў 40000! Тэрмінова да мэдыкаў прыехаў старшыня мясцовай "вэртыкалі", лекарскае начальства, іншыя чыноўнікі. У выніку абмеркаваньня было вырашана плату пакуль замарозіць, але ніхто нічога не гарантаваў на будучыню.**

**У Магілёве ствараецца музэй, прысьвечаны ўдзельнікам вайны ў Афганістане. Аказваецца, паводле матэрыялаў будучага музэю, 3,5 тысячы чалавек пабывалі ў гэтай шматпакутнай паўднёвай краіне. Больш за 300 зь іх альбо загінулі, альбо назаўжды засталіся інвалідамі. На жаль, музэй ствараецца такім чынам, каб распавесьці пра "гераізм і вернасьць Радзіме". Пытаньне – якой Радзіме – не абмяркоўваецца. Музэй мусіць "закансэрваваць" савецкую вэрсію тагачасных падзеяў. Грунтуючыся на якой, як вядома, праўды не дазнаесься.**

**Ліфтавы завод нядаўна выканаў дужа ганаровую замову. Ён вырабіў спэцыяльны ліфт для адміністрацыі прэзыдэнта. На жаль, невядомы кошт гэтага ліфту. Паводле словаў аднаго з працаўнікоў, атрымалася практычна ручная праца. Як толькі не выпрабоўвалі, як толькі не падганялі розныя вузлы і дэталі таго ліфту! Ён мусіў быць лепшы за сваіх імпартных "калегаў": па мяккасьці перавозкі, па дызайне, па цішыні ў кабіне й г.д. Кажуць, што ўсё атрымалася добра. Вось каб усе ліфты такімі былі...**

**Аблвыканкам дужа раззлаваны на прадпрыемствы, якія не аддаюць даўгоў. Напрыклад, магілёўскі аўтазавод завінаваціўся звыш паўмільярда рублёў, бабруйскі завод трактарных дэталяў – амаль паўмільярда. А ўвогуле ў гэтым сьпісе – некалькі дзясяткаў установаў, і агульная сума запазычанасьцяў перавышае 5 млрд. руб. Улады патрабуюць аддаць грошы, аднак, як вядома, прадпрыемствы адначасна выконваюць іншае ўладнае патрабаваньне – нарошчваюць вытворчасьць. Склады запаўняюцца прадукцыяй, якую нельга прадаць. Пад гэта атрымліваюцца крэдыты, з чаго і расьце тая запазычанасьць.**

**Сельскагаспадарчае начальства абмяркоўвала на калегіі наступную зімоўку. У мінулым годзе жывёле прыйшлося цяжка, статак скараціўся на трацціну. А чынавенства з трыбуны рапартавала пра ўздым сельскагаспадарчай галіны. Больш-менш занепакоена зачапілі толькі тэму надыходзячай зімы.**

*

**У Магілёў прыязджаў Лукашэнка. Адзначу толькі ягоную абяцанку падвысіць заробак на 40%. Баюся ўжо быць злым прарокам, але грошы гэтыя ў хуткім часе ўвасобяцца ў росьце коштаў і тэмпах інфляцыі. Праўда, Расея паабяцала стабілізацыйны крэдыт. Але сумняваюся, што тых абяцаных 100 мільёнаў даляраў (першы транш – 30) хопіць, каб утрымаць наш Дзяржбанк ад друкаваньня пустых грошай, а значыць – ад набліжэньня сацыяльна-эканамічнага калапсу.**

*Да сустрэчы,*
*Сымон Глазштэйн.*

---

## НОВЫ РЭЙТЫНГАВЫ ЛІСТ

# ...Ёсьць такі крыўдны сындром

Калі ўзяць беларускія газэты агулам і паглядзець на іх праз законы Трансьляцыі Інтарэсаў *("ТМ" раней друкаваў два артыкулы аб гэтай тэорыі)*, кідаецца ў вочы іхная скіраванасьць на *небеларускія* інтарэсы. Так паводзяць сябе куры: грабуць не да сябе, як усе іншыя, а – ад сябе. Вось такі "курыны сындром" у шмат якіх выданьнях і назіраецца. На жаль, большасьць рэдактараў і журналістаў лічаць, што "няма розьніцы", на якой мове выдаваць газэту – абы чыталі. Аднак меркаваць такім чынам – гэта значыць, на жаль, вельмі павярхоўна разумець нашу гісторыю, лёгкадумна адносіцца да нацыянальнай адметнасьці і наогул – да нацыянальнага сувэрэнітэту і дзяржаўнай незалежнасьці. Усё, як гаворыцца, пачынаецца з малога...

Як вы памятаеце, даволі дакладна вызначыць Трансьляцыю Беларускіх Інтарэсаў можна з дапамогай абмеру плошчаў выданьня, што аддаюцца матэрыялам на беларускай альбо (у нашых умовах) расейскай мовах. Адсюль лёгка вылічваецца каэфіцэнт ТІ.

Прыводжу ўдакладнёны і пашыраны рэйтынг папулярных выданьняў, адносна іхняга каэфіцэнта ТБІ.

Літаратура і мастацтва – 1000
Тыднёвік Магілёўскі – 1000
Культура – 0.998
Настаўніцкая газета – 0.980
Чырвоная змена – 0.956
Голас Радзімы – 0.952
Звязда – 0.810
Пагоня – 0.635
Наша Свабода – 0.474
Сям'я – 0.468
Згода – 0.411
Беларуская маладзёжная – 0.389
Народная Воля – 0.361
Паляўнічы і рыбалоў – 0.242
Народная газета – 0.208
Рабочы – 0.123
Наша доля – 0.083
Зямля і людзі – 0.072
Рэспубліка – 0.071
Магілёўскія ведамасці – 0.047
Беларускі час – 0.045
Веснік Магілёва – 0.030

Запрашаю чытачоў "ТМ" дапамагчы мне весьці маніторынг выданьняў па тэме ТБІ сярод выданьняў нашай вобласьці (зьвяртацца да мяне можна праз "Тыднёвік").

***Віктар АБРАМОВІЧ***

---

# Страчаная магчымасьць

***Нашыя чытачы памятаюць, што выбарчую тэму ў шырокім яе аспэкце ў газэце распачынаў сп. Ганс-Георг ВІК, кіраўнік місіі АБСЭ ў Беларусі. Выглядае лягічным, што закрываючы парлямэнцкую тэму, мы прадастаўляем яму ж сказаць апошняе слова...***

**Ізаляваньне дэмакратычных кандыдатаў**

У дзень выбараў у Менску, як і па ўсёй краіне, была цішыня. На выбарчых участках можна было назіраць невялікі ланцуг выбаршчыкаў. Амаль нідзе не было бачна адпаведных плякатаў, якія б сьведчылі пра тое, што 7 мільёнаў грамадзянаў краіны ў гэты дзень выбіралі парлямэнт. Аднак у атмасфэры восеньскага нядзельнага дня Ўрад быў занепакоены ўплывам незалежных дэмакратычных кандыдатаў і стратэгіяй байкоту, які разгарнулі апазыцыйныя партыі, што маюць дачыненьне да Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня. На працягу кастрычніка ў сталіцы й іншых месцах адбылася дэманстрацыі прыхільнікаў байкоту, апошняя зь якіх адбылася літаральна напярэдадні выбараў у цэнтры Менску. Урад прыклаў вялікія намаганьні, каб прывесьці людзей на выбарчыя ўчасткі, а разам з тым – каб прадухіліць удзел у выбарах кандыдатаў, якія мелі важкую рэпутацыю і крытычныя адносіны да палітыкі адміністрацыі краіны. Выканаўчая ўлада кіравала дзейнасьцю выбарчых камісіяў. Нават Вярхоўны Суд блаславіў выбарчыя камісіі ў іхняй адмове ў рэгістрацыі – на падставе вельмі слабых юрыдычных аргумэнтаў – шэрагу вядучых кандыдатаў, такіх як Г.Грушавы (Фонд "Дзецям Чарнобыля") і У.Ганчарык (старшыня Фэдэрацыі прафсаюзаў). Амаль 180 з 750 кандыдатаў – большасьць зь іх стаялі ў апазыцыі да ўраду – былі выключаныя з палітычнага спаборніцтва. Гэта выклікала адпаведную рэакцыю насельніцтва, многія выбаршчыкі не прымалі ўдзелу ў галасаваньні. Зразумела, што "адмоўленыя" кандыдаты ў сваіх акругах настойліва зьвярталі ўвагу выбаршчыкаў на тое, што яны вымушаныя галасаваць за тых, хто не былі прыхільнікамі патрэбных краіне рэформаў. Урад, заклапочаны тым, каб не згубіць уплыву на парлямэнт, згубіў значную палітычную магчымасьць пашырыць палітычную базу дзяржаўных інстытутаў для таго, каб працягнуць няхай сабе памяркоўны, але няспынны працэс рэформаў і праз гэта дамагчыся міжнароднай падтрымкі, нармалізаваньня адносінаў з асноўнымі эўрапейскімі інстытутамі – Эўрапейскім Зьвязам, Эўрапейскім парлямэнтам, Радай Эўропы. І нарэшце – Парлямэнцкай асамблеяй АБСЭ, якая працягвае прызнаваць Вярхоўны Савет 13-га скліканьня як дэмакратычна абраны інстытут. АБСЭ прымае непасрэдны ўдзел у намаганьнях умацаваньня і ажыцьцяўленьня працэсу дэмакратызацыі ў Беларусі.

**Праявы імкненьня да пераменаў**

Згодна апытаньням грамадскай думкі, якія прадставілі акадэмічныя дасьледчыя інтытуты ў Беларусі, 80 адсоткаў грамадзянаў, што меркавалі прыняць удзел у выбарах, прагнуць пераменаў у палітычнай і эканамічнай арыентацыі краіны. Большасьць патэнцыйных выбарцаў падтрымалі патрабаваньні АБСЭ па ўмацаваньні дэмакратычных асноваў у краіне, а менавіта па стварэньні адэкватных умоваў дзеля правядзеньня свабодных і дэмакратычных выбараў, прадастаўленьня апазыцыйным палітычным партыям магчымасьці карыстаньня дзяржаўнымі СМІ, рэфармаваньня ў бок пашырэньня паўнамоцтваў і кампэтэнцыі парлямэнта. Побач былі падтрыманыя патрабаваньні аднавіць вяршынства закону, незалежнасьць судзьдзяў і судоў, ліквідаваць практыку пераследу палітычных апанэнтаў з дапамогай юрыдычных мераў. Парлямэнцкая "тройка" эўрапейскіх інстытутаў адзначыла гэтае імкненьне да пераменаў у сваёй справаздачы "Аб



палітычнай сытуацыі ў Беларусі ў сьвятле парлямэнцкіх выбараў", якая была апублікавана ў часе яе выбарчага візыту ў Менск. У справаздачы адзначаецца, што ў выніку аналізу палітычнага працэсу і грамадзкага настрою, відавочнае імкненьне да пераменаў у бок сапраўднай дэмакратыі. Згодна заявы "тройкі", гэтыя палітычныя тэндэнцыі ў грамадстве не знаходзяць адлюстраваньня ў дзяржаўных СМІ, якія арыентаваныя толькі на падтрымку структураў улады. На жаль, гэтыя ж тэндэнцыі не знаходзяць адлюстраваньня і ў стратэгіях шмат якіх палітычных сілаў.

**Дасьледваньне вынікаў галасаваньня**

Экспэрты не былі зьдзіўленыя тым, што заявы афіцыйных органаў аб выніках (у першым туры) выбараў у 110 акругах былі ўспрынятыя як у краіне, так і міжнароднай апініяй, скептычна. Сп-ня Ярмошына паведаміла, што за 2 гадзіны да часу закрыцьця ўчасткаў прагаласавала толькі 40% выбарцаў. Аднак на раніцу ЦВК абвесьціла, што ў галасаваньні прынялі ўдзел 61,08%, і толькі ў 14 акругах з 110 не была забясьпечаная яўка паловы выбарцаў. Такім чынам, у 41-ой акрузе дэпутаты былі выбраныя ў першым туры.

Аднак гэтыя вынікі выклікалі сумненьні, і ня толькі ў апазыцыйных колах, якія настойваюць на тым, што ў выбарах узялі ўдзел толькі 45% зарэгістраваных выбарцаў. Старшыня цэнтральнай Каардынацыйнай рады грамадзкіх назіральнікаў прааналізаваў справаздачы 5.500 назіральнікаў, якія ахапілі больш за 3.500 участкаў у 50 акругах. Ён заявіў у выніку, што ня толькі ў 14, але ўвогуле ў 31 (калі не ў 35) акрузе выбарчая актыўнасьць не дасягала патрэбных 50%.

Як тое магло здарыцца? Шмат якія дакумэнты назіральнікаў сьведчаць пра парушэньні ў часе датэрміновага галасаваньня, выязднога галасаваньня. Аднак найбольшыя прэтэнзіі адрасаваныя мэтаду, пры якім зьмянялася колькасьць выбарцаў. Памяншэньне іх колькасьці аўтаматычна падвышала працэнт прагаласаваўшых ад агульнага сьпісу (выпраўленага). У некаторых акругах, згодна назіральнікаў, зьмені тычыліся 12.000 прозьвішчаў, што зьнізіла парог выбарцаў ажно на 15%. Назіральнікі і кандыдаты падалі адпаведныя заявы ў камісіі й іншыя інстанцыі. Іхны намер – дамагацца праўды праз суды, уключна з Вярхоўным.

Адной з асноўных рысаў нядаўніх выбараў было тое, што ў часе іх быў моцны статус і вялікая роля грамадзкіх назіральнікаў. У адказ на патрабаваньні міжнароднай супольнасьці Урад згадзіўся палепшыць правы назіральнікаў. Вельмі важкім было стварэньне цэнтральнай Каардынацыйнай рады, якую сфармавалі шасьцёра грамадзкіх арганізацыяў, у ліку якіх былі Беларускі Хельсінскі камітэт і Рэспубліканскі клюб выбарцаў. Некалькі тысячаў грамадзянаў пагадзіліся прайсьці навучаньне ў якасьці назіральнікаў і працаваць потым (на грамадзкіх пачатках) на выбарах. Для іх на міжнародным вопыце былі распрацаваныя формы справаздачнасьці для прадастаўленьня інфармацыі па асноўных парамэтрах выбараў і аб саміх выбарах. Сюды ўваходзілі такія моманты, як праверка сьпісаў выбарцаў, забесьпячэньне сакрэтнасьці моманту галасаваньня, рэглямэнтацыя працы назіральнікаў.

Значную ролю ў пасыўнай цікавасьці грамадзянаў да выбараў адыграў байкот, абвешчаны і праведзены шэрагам апазыцыйных дэмакратычных партыяў. У гэтых абставінах Урад мусіў бы весьці перамовы. Актывістаў байкоту пераследвалі, хаця дазвол на яго запісаны ў Выбарчым кодэксе. Пераслед выклікаў дрэнную рэакцыю і ўзрушэньне з боку дэмакратычных сілаў і міжнародных назіральнікаў. Дэманстрацыі, такім чынам, былі нервовымі і было цяжка забясьпечыць спакойнае і дысцыплінаванае іх правядзеньне. Многія негатыўныя праявы зь першага тура галасаваньня перайшлі на другі.

... Варты спачуваньня той факт, што сёньня існуе парлямэнт зь вельмі абмежаванымі паўнамоцтвамі, якія – па гэтай жа прычыне – наўрад будзе прызнаны міжнароднай супольнасьцю.

Цяжка сказаць, як доўга грамадзяне краіны будуць трываць такую сытуацыю, калі ў іх адымаюць права вызначаць арыентацыю ўнутранай і зьнешняй палытыцы краіны шляхам свабодных, справядлівых і бесьперашкодных выбараў, навязваючы праз грамадзкі плебісцыт падтрымку аўтакратычнай урадавай сыстэмы...

# Кубак Чырвонай Вежы



У мінулую нядзелю, 12 лістапада, у актавай залі 2-га корпусу МДУ адбылася даволі адметная зьява на магілёўскім інтэлектуальным небасхіле – у рамках агульнабеларускай моладзевай акцыі "Пераменаў!" камандай "Aqua Vita" пры падтрымцы грамадзкай арганізацыі "Кола сяброў" быў праведзены першы гарадзкі беларускамоўны турнір па "Што? Дзе? Калі?". У ім узялі ўдзел сталыя гульцы, стаж якіх перавышае пяць-шэсьць гадоў (раней у горадзе праводзіліся беларускамоўныя гульні, аднак толькі сярод дзіцячых камандаў).

Ад самага пачатку арганізатары мелі на мэце сабраць на турнір лепшыя гарадзкія каманды па інтэлектуальных гульнях. Выходзячы з гэтага, у МДУ і ў магілёўскім клюбе інтэлектуальных гульняў "IQ-club" былі праведзеныя адборныя туры, пераможцы якіх – 13 камандаў – былі запрошаныя на "Кубак Чырвонай Вежы". Такім чынам, гэта быў першы прадстаўнічы беларускамоўны турнір у горадзе, а можа і ў рэспубліцы (прынамсі, пры ўсёй сваёй дасьведчанасьці, я нічога ня ведаю аб правядзеньні падобных гульняў у іншых гарадах). Актуальнасьць "абеларушчваньня" адной з галінаў сучаснай масавай культуры, здаецца, зразумелая безь якіх тлумачэньняў. Аднак варта крыху пазнаёміць чытачоў з тым, што ўяўляе сабой плыня інтэлектуальных гульняў на Беларусі. Памыляецца той, хто лічыць, што інтэлектуальныя гульні – зьява выключна тэлевізійная. Вось ужо гадоў дзесяць, як у краіне заарганізавалася адмысловая беларуская ліга інтэлектуальных камандаў (БЛІК), якая аб'ядноўвае, па самых сьціплых падліках, у Магілёве, Гомлі, Віцебску й Менску па 30-40 камандаў у кожным, і ці не па стольki ж у раённых цэнтрах. Плюс да гэтага варта дадаць нябачную частку айсбэргу – амаль кожная школа, інстытут і ліцэй маюць сваю невялічкую лігу, якая нярэдка ёсьць адзінай альтэрнатывай БПСМ-у з БСМ-ам. Пры ўсім гэтым, да сёньня БЛІК застаецца мэнтальнай філіяй расейскай "элітарнай" лігі (той самай, гульні ў межах якой мы бачым па маскоўскім тэлебачаньні). Чаго вартая толькі гэткая традыцыя беларускай лігі, – кожнае восьмае пытаньне на турніры задаваць пра творчасьць Пушкіна А.С! Не пра сэмантыку беларускае традыцыйнае культуры, не пра Багдановіча, а пра "больш блізкага" нам дзядзьку. І гэта пры тым, што сярод гульцоў у Менску, напрыклад, можна заўважыць процьму людзей зь бел-чырвона-белымі сьцяжкамі на грудзёх (сярод іншых я, дарэчы, заўважаў спадара Андрэя Хадановіча, паэта, крытыка і перакладчыка). Такім чынам, беларускамоўны турнір быў запатрабаваны часам, пра што засьведчыў досыць высокі інтарэс да "Кубку", а таксама стопрацэнтовая актыўнасьць камандаў. Бо прыйшлі ўсе запрошаныя, у тым ліку "Джокер" – экс-чэмпіёны Беларусі, лепшая каманда краіны 1994 і 1998 гадоў; "Ільвы" – экс-чэмпіёны Беларусі сярод дзіцячых камандаў; іншыя каманды, большасьць якіх у агульным рэйтынгу па краіне займае 2-10 месцы.

Уласна ж "Кубак" пачаўся ў досыць добрым настроі, разьняволіцца гульцам дапамагала адмысловая падабраная айчынная музыка (на спробу паставіць Boba Marley нехта абурыўся: "Пастаўце беларускае народнае!"). Спачатку каманды вітаўлі зь цяжкасьцю звыкалі да паўзабытых асаблівасьцяў роднай мовы, аднак ужо пасьля першай часткі падобныя складанасьці адышлі на другі плян. Па выніку гэтага першага туру лідэрства ўпэўнена захапілі "Ільвы" і "Dream team", на 2-3 пункты абыходзячы бліжэйшых пасьлядоўнікаў. Аднак у другім туры нечакана вырваліся наперад каманды "Форум" і "Акулы", і толькі завяршальная частка гульні выявіла пераможцаў. З хісткай перавагай у некалькі пунктаў дадатковага рэйтынгу, пры роўнай колькасьці ўзятых пытаньняў, перамогу сьвяткавалі гульцы з "Форуму". "Ільвы" й "Акулы" сталі адпаведна другімі й трэцімі. Гэтыя каманды атрымалі ад арганізатараў неблагія прызы, і на моцным духоўным пад'ёме адзначылі сваю ўдалую гульню ў бліжэйшым бары хуткага абслугоўваньня.

Турнір мінуў – пачатак пакладзены. Працягам яму арганізатары бачаць штогадовае беларускае шоў, імя якому – "Кубак Чырвонай Вежы".

***А. БАЦЮКОЎ***

*Фота аўтара*

# "Тут стаяць нельга!"

***10 лістапада пад вечар я пайшоў у краму, дзе ў чарговы раз стаўся сьведкаю парушэньня міліцыяй правоў жыхароў Магілёва. Два міліцыянты вымагалі ад чатырох мужчынаў прасьледаваць у пастарунак.***

***Я пайшоў за імі, папярэдне ўключыўшы дыктафон, спадзеючыся, што праблема будзе вырашана мірна, бо хлопцы ўгаворвалі патруль адпусьціць іх. Шчыра скажу, што мне не жадалася трапіць на "суткі". (Мы раней распавядалі пра выпадак, калі В.Цурпанаў аказаўся за кратамі за спробу абараніць чалавека ад міліцэйскага гвалту – "ТМ").***

Аднак пераканаць патрульных хлопцам не ўдалося. Я мусіў наблізіцца да "кампаніі". Пасьля знаёмства я спытаў старэйшага патрульнага пра падставу затрыманьня людзей. Высьветлілася, што хлопцаў затрымалі за спробу выпіць па кілішку гарэлкі. У краме маецца кавярэнка, дзе людзі могуць спажываць каньяку альбо сухога віна. Аднак, на думку міліцыянтаў, быў парушаны артыкул 159 Кодэксу аб адміністрацыйных правапарушэньнях, які гучыць наступным чынам: "Распитие спиртных напитков в неустановленном месте". Ня мелі плёну спробы давесьці міліцыянтам доказы аб адсутнасьці правапарушэньня: чаму ж нельга піць гарэлку там, дзе пьюць каньяк?

Я патлумачыў затрыманым іх канстытуцыйныя правы мець прадстаўніка. Адзін зь іх тут жа заявіў, што хоча, каб я такім і быў. Далей міліцыянты абурыліся, калі я нагадаў пра артыкул 27 Канстытуцыі, паводле якога "...Ніхто не павінен прымушацца даваць паказаньні і тлумачэньні супраць самога сябе...". Адзін зь іх пачаў выклікаць дапамогу дзеля нэўтралізацыі "адваката", пры гэтым заклікаўшы мяне адыйсьці ад яго на 15 мэтраў...

У апорцы №10 хлопцаў закрылі ў "клетку": на 2-х квадратных мэтрах закратаванае плошчы месьціліся восем-дзевяць чалавек. Мяне ў пакой не пусьцілі, пагражаючы "закрыць па 166-й", "аформіць" увогуле. Потым адзін чалавек у форме капітана прымяніў фізычную сілу – і я аказаўся на вуліцы. З дапамогаю яшчэ аднаго супрацоўніка, маёра, мне ўдалося высьветліць, што дзяжураваў у гэты час старэйшы лейтэнант міліцыі Бурмялёў А.А.

Я мусіў тэлефанаваць дзяжурнаму па ЎУС. Праз нейкі час з Кастрычніцкага РАЎСа зьявіўся адказны па раёну, старэйшы лейтэнант міліцыі Аляхновіч А.М. Мая размова зь ім не была прыемнай, аднак я высьветліў, што капітан у гэтай "апорцы" толькі адзін – Сідараў.

Тым часам аднаго з маіх падабаронных выпусьцілі й я запытаўся ў яго пра сутнасьць пратакола, які ён падпісаў. Сьведкаю гэтага стаўся адказны па раёне, які выйшаў на ганак. Спадар Аляхновіч запатрабаваў, каб я сыйшоў адтуль, бо стаяць там нельга, што я сабраў вакол сябе нецьвярозых людзей і маю намер нападзіць "беспарадкі". Калі ж я адмовіўся выканаць незаконнае патрабаваньне, ён пачаў настойваць, каб я ехаў зь ім у РАЎС дзеля разьбіральніцтва. Мы пасунуліся далей ад негасьцінната пастарунка...

***Валадар ЦУРПАНАЎ, праваабаронца***

## ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА



# Мэл Гібсан гаворыць па-беларуску

***Беларускі відзаклюб заклікаў грамадзкасьць краіны аказаць падтрымку сваёй дзейнасьці па дэманстрацыі відэафільмаў на беларускай мове.***

Беларускі відзаклюб – гэта структура Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Ён быў створаны ў 1999 годзе з мэтай спрыяць вытворчасьці беларускіх фільмаў і перакладу на родную мову замежных кінастужак. За час свайго існаваньня БВК пераклаў на родную мову такія вядомыя ў сьвеце фільмы, як "Пяты элемэнт" і "Адважнае сэрца", перавыдаў фільм "Ісус" зь беларускім перакладам. Нядаўна БВК дамовіўся з прадстаўнікамі Беларускай асацыяцыі незалежнага тэлебачаньня аб дэмастрацыі фільма Мэла Гібсана "Адважнае сэрца" на рэгіянальных тэлеканалах. **Паказ гэтай стужкі чакаецца сёньня, 17-га і заўтра, 18 лістапада, і прымеркаваны ён да чарговай гадавіны Слуцкага Збройнага Чыну.**




Зараз БВК завяршае працу над відэазборнікам "Фільмы з удзелам Віктара Шалкевіча", на чарзе – пераклад мастацкіх стужак "Пан Тадэвуш", "Агнём і мячом", "Матрыца", "Бэтховэн", "Маска", "Юрскі парк-2", мультфільм "Кароль Леў".

"Мы гатовыя разьмясьціць Ваш лягатып на вокладцы відэакасэты, а Ваш відэаролік – перад запісам фільма, – гаворыцца ў звароце Беларускага відэаклюба. – Таксама, калі Вы будзеце спонсарам таго альбо іншага фільма, то падчас яго дэманстрацыі на рэгіянальных каналах будзе дэманстравацца Ваш відэаролік. Вы можаце падтрымаць дэманстрацыю ўжо выдадзеных стужак, разьмясьціўшы сваю рэкламу падчас іх паказу".

Прадстаўнікі відэаклюба заклікаюць беларускіх грамадзянаў падтрымаць іхную дзейнасьць сваімі ахвяраваньнямі. Грошы можна пераводзіць на рахунак ТБМ № 3015212330014 у гарадзкой дырэкцыі Белбізнэсбанку Менска, код 764. Квіток аб аплаце аўтары звароту просяць дасылаць на адрас: 220107, Менск, аб. скрыня 150. Кантактныя тэлефоны ў Менску: (017) 213-43-52, 240-78-01.

***Паводле БЕЛАПАН***

## Кніжныя навінкі

**У Вільні выйшаў сыгнальны экзэмпляр кнігі Зянона Пазьняка "Глёрыя Патрыя".**

У кнігу ўвайшлі ягоныя фота-вершы, зробленыя цягам 80-х гадоў. Кніга мелася выйсьці яшчэ ў 1996 годзе, аднак перашкодзіла гэтаму вымушаная эміграцыя аўтара. Ідэя кнігі належыць Уладзімеру Арлову, які угаварыў Зянона Пазьняка надрукаваць свае вершы і фотаздымкі. Прадмову напісаў Рыгор Барадулін. У хуткім часе зьявіцца ўвесь наклад гэтага выданьня.



Рэдактар Генадзь СУДНІК




Аналітычна-інфармацыйная газэта. Заснаваная Магілёўскім ГА «КОЛА СЯБРОЎ».

Зарэгістраваная ў Дзяржкамітэце РБ па друку 06.11.1996 г. за № 831.

Штотыднёвік



АДРАС РЭДАКЦЫІ:

212030, г. Магілёў, вул. Першамайская, 6-22.



Тэл./факс: 31-04-15, 22-97-82.

E-mail: krug@user.unibel.by

Інтэрнэт: http://tydniovik.hypermart.net

Газэта надрукаваная афсэтным спосабам у абласной друкарні імя Я.Свярдлова, г. Магілёў, Першамайская 70. Замова 45. Наклад 2000 асобнікаў. Падпісана да друку 16.11.2000 г. а 17.05.